# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 19 (1002) ГОД XX 11 МАЯ 1975 г. ЦАНА 60 гр.

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 75“



Другое месца ў сёлетнім цэнтральным аглядзе ў катэгорыі фальклорнай песні ў групе салістаў заняла А. Стахвінок з Трасцянкі Гайнаўскага павету.

## Пуцяводныя думкі

З указання розуму, што мір ёсць дабро, вынікае, на аснове таго ж розуму, што ўсе сродкі, неабходныя для падтрымкі міру, добрыя.

*Т. Гобс*

Народы ніколі не зацікаўлены ў тым, каб узаемна губіць адзін другога. Дзень падзення дэспатаў будзе першым днём згоды і міру народаў.

*А. Міцкевіч*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

## АВЕЯНЫЯ легендай

Так ужо выйшла, што Міжнародны год жанчыны супаў з 30-годдзем перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Сярод пераможцаў былі і жанчыны Беларусі. Звыш 16-ці тысяч іх нароўні з мужчынамі грамілі ворага на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскіх атрадах, у падпольных патрыятычных арганізацыях. Радзіма высока ацаніла іх подзвігі: дзесяці найбольш заслужаным жанчынам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Амаль усе яны — равесніцы. Дочкі камсамольцаў 20-х гадоў. І так, як іх бацькі ў грамадзянскую вайну, яны не раздумвалі, як паступіць, калі ў чэрвені 1941 года на Радзіму вераломна напала фашысцкая Германія...

...Крывавы бой працягваўся ўжо некалькі гадзін. Галена Стэмпкоўская спусцілася ў акоп і ўбачыла, што мёртвы сувязіст сціскае ў руцэ тэлефонную трубку, а з яе чувань настойлівае і трывожнае:

— „Бяроза!“, „Бяроза!“

— Я — „Бяроза!“ — схапіўшы трубку, адказала Галена, — малодшы сяржант Стэмпкоўская, радзістка другога батальёна. Назіральнікі загінулі... Агонь на мяне!

„Агонь на мяне!“ Удумайцеся ў гэтыя словы. Ішоў жа Галене ўсяго 21 год... Нямнога дзён адмерыла ёй вайна. 29 чэрвеня 1942 г. на хутар Зімовенькі ўварваліся гітлераўцы. Калі пачула грукат прыкладаў у дзверы, Лена Стэмпкоўская ўзарвала радыёстанцыю і пачала расстрэльваць фашыстаў ва ўпор. Пасля мясцовыя жыхары расказвалі, якія мукі вынесла яна на допытах, як гераічна паводзіла сябе да апошняга дыхання.

Бадай, у той жа час уступіла ў свой першы бой пад Варонежам санінструктар 303-й сібірскай дывізіі Зінаіда Туснапобава. Што там рабілася! У першыя ж дні Зіна вынесла з поля бою 40 раненых. А колькі разоў ад іх роты заставаліся ў страі ўсяго 2-3 байцы! Нават прозвішчаў камандзіраў не паспявала запомніць. У 1943 іх дывізію перавялі з Варонежскага на Курскі напрамак.

(Працяг на стар. 2)



*Герой Савецкага Саюза Марыя Осіпава.*



### ПЕРАМОГА

Без болю невядомых мне салдат,
без бою, дзе аплочана так многа,
да папялішчаў і сіроцкіх хат,
напэўна, не дайшла б ты,
Перамога.
Паўстанкі і стаптаныя палі
цябе віталі з радасцю дзіцячай
плакучым смехам і вясёлым плачам
і за руку да родных месц вялі.
...Не бачыў я, як падалі байцы,
На гэты дол, задымлена-крывавы,
прымяўшы недакошаныя травы,
якім вясною — зноўку узысці.
Не зведаў я расстрэлаў і блакад
і не ішоў на дно на пераправах,
але вайну я ведаю яскрава
па немаце ўцалелых цудам хат.
Вайна і сёння на зямлі блукае,
хоць заарана шмат яе слядоў.
Яна — бяссонне раненых садоў
і маці, што сыноў штоноч чакае...
Яна для нас — не міф далёкай эры:
рэальная ўсёй праўдаю сваёй,
дзе чырвань нашых сцягаў —
нашай веры —
чырвонай правяралася крывёй.
І ў той праверцы — наша Перамога.
На той паверцы — мне сягоння быць.
І я ў жыцця прашу зусім нямнога:
не дай нічога мне ў жыцці забыць!

**Віктар Ярац**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Аўчары з Ягаднікаў ● Купалаўцы ў Беластоку ● Сельгасгурткі ў Беластоцкім павеце ● Шарцаўскі майстар на ўсе рукі ● Сонная вёска Коматаўцы ● Хвядзюліна Красавіца спакушае Кастуся ● Па слядах „Патопу“ ● Гараскоп ● Весткі з Чаромхі, Шудзялава, Піражкоў, Стрыкоў, Кляшчэляў, Лянева, Галадоў, Гайнаўкі, Вярхлесся, Рудутаў, Мокрага, Бабікаў ● песня „Nie odchodźcie gitarzyści”.**

## І Ў БЕРЛІНЕ СВОЙ ЗАКОНЧЫЛІ ПАХОД...

Яму цяпер ужо 72 гады. Жыве ў Гайнаўцы. Дом знаходзіцца ў невялічкім агародчыку. Спакойна тут і ціха. А ў пачатку мая, калі думкі вяртаюцца да берлінскай перамогі, на яго вуліцы пахне зацвіўшым садам.

**Антон Мордань** двойчы заслужыў спакойнага адпачынку. Раз, бо амаль 40 год працаваў леснікам, а два, **бо ўласнымі нагамі перамерыў праслаўлены шлях Людовага Войска Польскага ад Леніна да Берліна.**

Стары салдат раскладае перада мною свой дамашні архіў. Не адзін музей мог бы пазайздросціць яму архіўных матэрыялаў. Памятныя медалі, ордэны і падзякі.

— Да мяне напісаў нават генерал Зыгмунт Берлінг, — з гордасцю заяўляе Антон Мордань. — Я паслаў яму прывітанні на 25 гадавіну бою пад Леніна, а ён мне тут жа прыслаў адказ.

Чытаю:

*Warszawa, 21.X.1968 r.*

*Drogi Stary Wiarusie!*

*Serdecznie Wam dziękuję za życzenia. Od Was wszystkich zawsze mi są najmilsze. Te czasy i te przeżycia, przez które przeszliśmy razem zawsze pozostaną w mojej pamięci.*

*Serdecznie Was pozdrawiam —*

*Z. Berling*

Сардэчны, сяброўскі ліст. Як да добрага знаёмага.

— Ці здаралася вам асабіста сустракаць генерала Берлінга?

— Вядома! Ён жа ў штабе не заседжваўся. Як толькі мог, то ішоў да салдат. Стаім, бывала, у страю, ён праходзіць няспешна перад намі і неяк пабацькоўску глядзіць кожнаму ў вочы, неяк добра і строга. У нас мурашкі па спіне ходзяць, але сэрца напаўняецца даверам, што павядзе ён нас на добрую справу. А адзін раз то ён мяне аж напалохаў. Праходзілі мы ў полі пасконанае абучэнне. Памучыліся і папацелі, што ледзь аддыхаліся ў час кароткага перапынку. Бачу, пад лесам стаяць рускія бабы і прадаюць ягады. Думаю: ягад наемся і сяброў пачастую. Таргую я гэтыя ягады, а тут раптам за плячыма чую знаёмы, рашучы яго голас: *„Капрал!“* Адварочваюся, выцягваюся на смірна, але кошык, халера, перашкаджае і з перапалоху нават парадачна адрапартавацца не магу. *„Ці не ведаеце, капрал, — гаворыць ён, — што нельга аддаляцца ад сваіх?“ „Ведаю!“*

(Працяг на стар. 4)



*Ляснік-пенсіянер Антон Мордань на з'ездзе карэспандэнтаў „Нівы“.*

*Фота Я. Цялушэцкага.*

## ЗА АКТЫЎНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ УСЯЕ НАШАЙ АРГАНІЗАЦЫІ

Як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары, пленум Галоўнага праўлення БГКТ, які адбыўся 13 красавіка бягучага года, прыняў абавязваючыя ўсю нашу арганізацыю пастановы.

Кожны гурток БГКТ павінен увесь час клапаціцца пра павелічэнне ліку сваіх членаў, пры гэтым звяртаць увагу на прыняццё ў арганізацыю людзей вопытных і аўтарытэтных, пастаянна пражываючых у гэтай мясцовасці. Праўленні гурткоў для ўмацавання ўнутрыарганізацыйнай дысцыпліны займуцца больш пільна справамі рэгулярнага аплочвання членскіх складчын і сістэматычным вядзеннем хаця б скромнай дакументацыі, якая сведчыла б аб дзейнасці гуртка і яго ўкладзе для дабра асяроддзя. Сваю культурна-асветную дзейнасць гурткі будуць весці ў цесным супрацоўніцтве з іншымі грамадскімі арганізацыямі мясцовасці і актыўна ўключацца ў справы жыцця вёскі і мястэчка дзеля росту ўзроўню культуры, асветы і выхавання. Пры гэтым іх абавязак папулярызаваць беларускую культуру як неад'емную частку агульнанароднай культуры, арганізоўваць тэатральныя, дэкламатарскія, музычныя і харавыя калектывы, старанна захоўваць багацце беларускага фальклору, адкрываць таленавітых народных спевакоў і заахвочваць іх да ўдзелу ў конкурсах беларускай песні, праводзіць розныя мерапрыемствы, звязаныя з народнымі традыцыямі, напрыклад, „кудзельніцы“, „дажынкі“ і г.д., словам пашыраць самадзейны мастацкі рух з беларускім рэпертуарам і актыўна ў ім удзельнічаць.

(Працяг на стар. 5)




## Заканадаўства ў Літве і Беларусі

Аб'ёмістае даследаванне Юльюша Бардаха „Нарысы аб ладзе і заканадаўстве ў Вялікім княстве Літоўскім“ уяўляе сабою вялікую цікавасць.

Сабраныя ў гэтай кніжцы матэрыялы датычацца грамадскага і палітычнага ладу, пытанняў уласнасці, сямейнага заканадаўства і паходжання адміністрацыйных ды прававых нормаў. Літоўскія статуты, выдатнае дасягненне еўрапейскай юрыдычнай думкі, аднак жа не тлумачаць усёй спецыфікі жыцця ў тагачаснай Літве і Беларусі. Бардах заняўся высвятленнем пытанняў, аб якіх мала гаворыцца або і зусім глуха ў спамянутых статутах. Шмат месца прысвяціў ён распрацоўцы і паказу звычаёвага права ў Вялікім княстве літоўскім. Рэгулявала яно справы сям'і, узаемныя ахвяраванні, шлюбы і разводы, некаторыя формы адміністрацыі. У феадальных грамадствах звычай меў нярэдка большае значэнне, чымсьці пісаны закон.

Бардах дыскутуе аб істоце польска-літоўскай уніі і яе прычынах, спрачаецца наконт аўтарства летапісу Быхаўца, разважае аб т.зв. смердах. Надта цікавыя разважанні аб правах на ўласнасць. (Ці быў старэйшы надзелу?). Прымакоўства на Беларусі існавала здаўна. Адкуль яно? Літоўцы не перавышалі дваццаці працэнтаў усяго насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім. Беларусы з'яўляліся праваслаўнымі, і ў сувязі з тым трэба было ўстанавіць асобныя сямейныя законы — каталіцкім літоўцам і праваслаўным беларусам. Княжацкая канцылярыя выдавала мноства дакументаў, якія нярэдка пярэчылі адзін другому. Здараліся і фальшывыя. Як гэта адбывалася і чаму? Як жыць „без поклону и куницы“? Княжацкая адміністрацыя змагалася з даўнім звычаем паклонаў і падарункаў ніжэйшым чынам, напрыклад, войту. Бардах даследуе таксама дзейнасць разведчай службы таго часу.

**С. Яновіч**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

**ІЯННА СТАТКЕВІЧ**



Добрых поспехаў у бегу на доўгіх дыстанцыях дабілася маладая спартсменка з Боцькаў Бельскага павету Іянна Статкевіч. Вучыцца яна ў другім класе мясцовай сельскагаспадарчай школы. Удзельнічала ў павятовых і ваяводскіх дажынкавых бегах. У бегу на стадыёне ў Бельску Падляшскім на дыстанцыі 1500 метраў Іянна Статкевіч заняла першае месца. На ваяводскіх спаборніцтвах школьніц у Беластоку яна заняла восьмае месца. Цяпер маладая боцькаўская спартсменка рыхтуецца да спаборніцтваў па бегу ў штафеце з Боцькаў у Бельск Падляшскі з нагоды Дня перамогі над гітлераўскімі фашыстамі, якія арганізуюць гмінныя праўленні ЛЗС і ЗСМВ у Боцьках.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**




Вучнёўская спулдзельня „Дружба“ працуе пры Тэхнікуме сельскагаспадарчага рахункаводства ў Бельску Падляшскім ужо 14 год. Належыць да яе 390 вучняў на 400 усіх. Спулдзельня працуе на самастойным гаспадарчым разлічэнні, не карыстаецца крэдытамі ці іншымі формамі фінансавай дапамогі. Яе маёмасць складае 80.972 зл. На канец года не мела яна ніякіх даўгоў.

Спулдзельня вядзе разнародную дзейнасць: апрача звычайнай гандлёвай працы, вучыць ашчаднасці, займаецца зборам макулатуры, продажам падручнікаў, культурна-асветнай дзейнасцю. Найважнейшую, аднак, ролю адыгрывае ў навучанні. Кожны член займаецца нечым у спулдзельні. Кожны павінен быў быць прадаўшчыком у вучнёўскай краме. Кожны павінен умець правесці інвентарызацыю, уладзіць розныя фінансавыя справы ў спулдзельчым банку ў Бельску. Усё гэта прымушае членаў больш знаёміцца з юрыдычнымі і фінансавымі нормамі і законамі, якія патрэбны ў гандлі.

Усё гэта прыгадзіцца спулдзельцам, якія пасля заканчэння тэхнікума і стажу працы будуць бухгалтарамі на прадпрыемствах і ўстановах.

У 1974 годзе ў спулдзельні працавала 253 вучняў, у органах самаўпраўлення прымала ўдзел 17 асоб, прадаўшчыкамі ў школьнай краме былі 83 асобы, інвентарызацыю праводзіла 120 асоб, тавары дастаўляла 12 асоб, арганізавала збор макулатуры 10 асоб, у бухгалтэрыі спулдзельні працавала 11 асоб. Асабліва адказная праца ў бухгалтэрыі, яна вымагае вялікай дакладнасці і ўмеласці. І ў гэтай працы адрозніваліся Галіна Панасюк і Марыя Іваноўская.

Тавары ў школьную краму паступаюць са складаў ПЗГС у Бельску і ВСС — аддзел у Бельску. Прадаўшчыком у краме вучні працуюць 7 дзён. Апрача продажу тавараў, прадавец у той жа час вядзе ўсю дакументацыю прынятых тавараў і кнігу дзённага абароту. Дбае таксама пра чысціню і парадак у краме. У 1974 годзе было прададзена тавараў на суму 367.024 зл. Дзённыя абароты раўняюцца ў сярэднім 1000 зл. Найлепшымі прадаўцамі былі Бажэна Чаркоўская і Аліна Яжомбэк. За мінулы год было сабрана 2.136 кг макулатуры. Гэта павялічыла даход спулдзельні. У арганізацыі збору макулатуры найбольш заслужыўся Збігнеў Пухальскі.

Важнай справай з'яўляецца продаж падручнікаў. Кнігарня нумар 56 у Бельску ўсе заказаныя падручнікі перадае вучнёўскай спулдзельні і тая прадае іх вучням. У мінулым годзе прададзена падручнікаў на суму 46.469 зл.

У конкурсе ВСС-Беласток на найбольш актыўную вучнёўскую спулдзельню бельская „Дружба“ заняла пятае месца ў ваяводстве. Атрымала за гэта ўзнагароду 1500 зл.

За 1974 год даход спулдзельні раўняўся 42.075 зл. Гэта найвышэйшы даход за 14 год існавання спулдзельні. З гэтых грошай найбольшая сума прадбачыцца на экскурсіі для моладзі. Агульны сход членаў прызначыў 22.600 зл. на даплату да трох экскурсій у канцы гэтага года. Частка пойдзе на культурна-асветныя мерапрыемствы, арганізаваныя ў школе, за частку будуць куплены ўзнагароды для найбольш актыўных спулдзельцаў.

Было вырашана прызнаць у 1975 годзе грашовую дапамогу 6 вучням, у якіх вельмі цяжкія ўмовы жыцця. Агульны сход пастанавіў выплачваць ім кожны месяц частковую стыпендыю.

Частку даходу вырашылі перадаць на Цэнтр здароўя дзіцяці, на Каралеўскі замак, на пабудову Інстытута здароўя дзіцяці ў Беластоку. У бліжэйшы час пэўная сума будзе перададзена Таварыству любіцеляў Бельскай зямлі ў Бельску Падляшскім.

Як з усяго сказанага відаць, вучнёўская спулдзельня „Дружба“ пры ТРР у Бельску стала добрай школай эканамічнага і грамадскага дзеяння.

**Мікалай Няплоха,**
апякун вучнёўскай спулдзельні




## Сардэчныя тайны

Неймаверна перамяніўся, любенькія, свет ад часу мае маладосці. Самому часамі паверыць цяжка. Тое, што, скажам, калісьці тайным, найтайнейшым было, сёння, здаецца, вось так сабе, проста, у жменю схапіць можна. Такое сэрца, напрыклад, возьмем.

Стукала-стукала яно сабе дагэтуль зусім непрыкметна, раз хутчэй, раз павальней — залежна ад сітуацыі, у кожнага чалавека па-свойму. А сёння?

Мала што на сэрцы аперацыі робяць. Мала што ўвесь час яго падмяніць чымкольвек стараюцца. Сёння хопіць, уявіце сабе, абы цётцы ўзяць газету ў рукі, адшукаць адпаведную рубрыку, „Сэрца на талерцы“, скажам, ці якую таму падобную, і ўжо яна ведае, чыё, у які бок і з якімі выкрунтасамі, сэрца трапечацца.

Раней, каб такія інфармацыі раздабыць, ёй трэба было, язык высалапіўшы, паўвёскі аббегаць, усіх суседак распытаць, ды і то такіх падрабязнасцяў не даведалася б. А ў газеце, міленькія, яшчэ і адказ, альбо парада ў кожнай справе ёсць — вопыту пачарпнуць можна, павучыцца.

Пытае, скажам, Аня М. з Зязюлева. „Скажыце, як гэта магло здарыцца? Нягледзячы на тое, што мне падабаецца Ванюша, я ўжо тры месяцы як сябрую з Андрушам, а цяжарнасць маю лекар акрэсліў на месяцаў шэсць“.

Аўтар рубрыкі паясняе:

„Мілая Аня. У гэтакім выпадку альбо твая цяжарнасць не ад Андрушы, а ад Ванюшы, альбо табе ў той самы час яшчэ хто-кольвек іншы спадабаўся“.

Шукае помачы і Марыя І. з Нетразвілаўкі. „Мой Сцяпан, — піша, — зусім мяне, пэўна ўжо разлюбіў. Раней, асабліва падвыпіўшы, прынамсі два разы ў тыдзень косці пералічыць, сінякоў з зайздрасці панаставіць. А цяпер, уявіце сабе бяду, цэлы ўжо месяц не крануў нават пальцам. Што думаць? Як ратавацца?“

„Т-а-ак, Марысенька, — разважае рэдактар. — Справа твая выразна скамплікаваная. Абавязкова схадзі са Сцяпанам да лекара. Можа, у яго малакроўе, у бедненькага, альбо так ад якой хваробы аслаб. Калі не, дык, значыцца, выпівае замала і трэба яму пару кілішкаў у дзень прыбавіць“.

Шукае парады і Ірына Т. з Неасветава. „З Ігнатам, — паведамляе, — мы ўжо ходзім больш года. Баюся зацяжарыць, бо вучуся ў сярэдняй школе і не хацела б перарываць навуку. Што рабіць?“

„Крый Божа, не рабіць больш нічога, — гучыць адказ. — Спакойна хадзіць далей. Наколькі мы ведаем, ходзячы, золатца, зацяжарыць амаль немагчыма, а ва ўсякім выпадку надта ж нязручна“.

Усё бачыце, проста. Усё, бачыце, ясна. І на ўсё ёсць адказ і парада.

Адзін раз толькі, ведаеце, бяда з гэтай рубрыкай у нашай рэдакцыі выйшла.

Напісаў калісьці да нас чытач. „Даражэнькае „Сэрца на талерцы“, з захапленнем чытаю твае парады. Ты напэўна жанчына, ды жанчына пры тым маладзенькая і, безумоўна, прыгожая. Не бачачы цябе ніколі, я ўсё ж закахаўся ў цябе без памяці. Веру, што такая, як ты, кабетка, з тваім вопытам, з тваім веданнем жыцця, была б мне найлепшай жонкаю. Для мяне нават няшлюбнае дзіцё не перашкода. Калі спаткаемся?“

Давялося яму адказаць. „Паважаны сябра! Пастарайцеся добра мяне зразумець. Ніякая я перад усім не маладая жанчына, а старэйшы ўжо, лысаваты дзядзька. Да прыгажосці мне таксама вельмі далёка — я вам не сакратарка галоўнага. Вопыт і веданне жыцця, вядома, ёсць, толькі што таксама не ў мяне, а нашай прыбіральшчыцы цёткі Мані, якая мяне заўсёды ў адказах на пытанні выручае. Яна, як сама гаворыць, не такія яшчэ плёткі чула і не з такіх сітуацый выкручвалася. Затое спаткацца, вось гэта мы з вамі можам. Прыходзьце, калі ласка, напрыклад, у рэстаран „Фіялка“. Я туды амаль штовечар на піва і чарку чаго мацнейшага заходжу. Вось тады і пра дзяцей няшлюбных пагаворым — бо мне гэтыя аліменты плаціць, ведаеце, таксама ўжо даўно надакучыла“.

**Ларс**

## Наша галерэя



Міхась Савіцкі, Мінск. „Поле“.

 

Пачатак на стар. 1

— шапчу. *„Дык чаго лазіце? Ягад вам захацелася?!“* — Берлінг паківаў мне перад носам пальцам і загадаў: *„У строй — бягом!“* І так мы расталіся.

Ранкам 12 кастрычніка 1943 года распачаўся гістарычны для Польскага Войска бой пад Леніна. Трэці пяхотны полк першапачаткова аставаўся на другой лініі фронту за вёскай Нікаленкі, як рэзерв камандуючага дывізіяй.

Антон Мордань успамінае:

— Мы не паспелі нават добра акапацца, а тут нахлынулі нямецкія самалёты і распачалася бамбёжка. Так мы праходзілі сваё баявое хрышчэнне. Вечарам загадалі: *„У атаку!“* На падтрымку і выручку баявым сябрам першага пяхотнага палка, які змагаўся за беларускія вёскі Трыгубава і Паўзухі. З разбегу пераскочылі мы рэчку Мірэю і памчаліся цераз раскіслае балота, па якім ужо ішлі ў бой нашы сябры.

Занялі яны абарону пад вёскай Трыгубава.

— Ноч, цёмна, нічога не відна, невядома дзе свае, а дзе вораг. Сядзім, прыпаўшы да зямлі, і толькі дзве думкі па галаве ходзяць: каб не прапусціць немцаў і каб жывым астацца. Адзін з нашых, мой камандзір, плютановы Station Станіслаў Раеўскі, разумеў крыху нямецкую мову. Прыслухаўся і кажа: *„Яны нас ужо вынюхалі. Зараз пачнецца разня. Змяняем акопы“*. І добра зрабілі, бо тут жа фашысты пачалі лупіць у гэтае месца, дзе мы сядзелі. А пасля, 13 кастрычніка, на працягу цэлага дня развязалася над намі сапраўднае пекла. Немцы ішлі ў атаку, мы заўзята адбіваліся, ды яшчэ снарады пралятали над нашымі галовамі з абодвух бакоў фронту, самалёты кідалі бомбы і страчылі кулямёты. Дым, агонь, енк параненых... як у пякельным катле... Там на нашых вачах загінуў камандзір І роты 3 палка малады падпаручнік з Кіева Юльян Сламчынскі, які вельмі хацеў убачыць Варшаву. Скасілі яго кулямётнай чаргой.

# І Ў БЕРЛІНЕ СВОЙ ЗАКОНЧЫЛІ ПАХОД...

Не адступілі. Выканалі сваё баявое заданне і ўтрымаліся на сваіх пазіцыях, пакуль на світанні 14 кастрычніка не падмянілі іх зноў савецкія воіны.

А пасля былі яшчэ бai за Варшаву, за Паморскі Вал, за Калабжэг, фарсіраванне шырокаводнай Одры і, урэшце, штурм Берліна. Бо Антона Морданя пасля бою пад Леніна перавялі ў найбольш выкрываўлены ў гэтым баю І пяхотны полк, а затым стаў ён артылерыстам і са сваёй батарэяй штурмаваў Берлін.

— Я вам хачу аднак расказаць не пра берлінскі бой, — гаворыць ён, — бо аб гэтым ёсць ужо і фільмы, і кніжкі. Хачу вам расказаць пра тое, што я бачыў у Берліне ўжо пасля бою. Ведаеце, як фашысты знуткаваліся над нашымі народамі. Майго брата таксама замучылі ў лагеры. І свайму, нямецкаму народу столькі яны бяды нарабілі... Вось закончылася страляніна, павылазілі немцы са сваіх сховішчаў, галодныя і засохшыя, просяць вады і, як авечкі, становяцца ў даўжэзныя чэргі за ядой і вадой. Глядзеў я на іх і думаў: вось яны хацелі заваяваць цэлы свет. Прыліпла да мяне адна немка, каб для яе без чаргі набраць вады, бо спяшалася да сваіх дзяцей. Хацеў, было, адапхнуць яе ад сябе прыкладам, але супакоіўся, я ж не фашыст, каб іх метады пераймаць... І набраў я ёй вады... Хай успамінае польскага салдата...

Антон Мордань закончыў вайсковую службу ў верасні 1945 года і пасяліўся ў Гайнаўцы. Стаў лесніком.

**Віктар Рудчык**





*Машыны рамантуюць Мікалай Грэсь і Анатоль Пацалуйка.*

# ПЕРАДАВЫ СЕЛЬГАСГУРТОК І ЯГО СТАРШЫНЯ

Адным з найлепшых сельскагаспадарчых гурткоў у Беластоцкім павеце лічыцца сельгасгурток у Залуках. Працуе ён без ніякіх затрат. Адзінаццаць гадоў нязменна старшынствуе ў ім Уладзіслаў Паплаўскі і столькі ж гадоў гурток атрымлівае значныя даходы. За мінулы год атрымаў 311 тысяч даходу.

Цяпер у сельгасгуртку ёсць 12 трактараў з камплектамі падвесных машын, 46 сеўнікаў, 11 бульбакапалак, 9 касілак, 6 снопавязалак, 2 камбайны — „Бізон“ і „Вістуля“. Дагледаюць іх самі трактарысты, а ўжо найбольш старшыня У. Паплаўскі. Многія сельскагаспадарчыя машыны перахоўваюцца ў спецыяльна прыстасаваных будынках.

У гэтым годзе залукаўскія сельгасгуртkoўцы збіраюцца купіць яшчэ два трактары, тры снопавязалкі, раскідвач вапны, касілку, дастаўчы самаход — „Тарпан“ або „Жук“ і іншыя сельскагаспадарчыя машыны.

Добра наладжваецца супрацоўніцтва праўлення сельгасгуртка з трактарыстамі. Як сцвярджаюць старшыня Уладзіслаў Паплаўскі і бухгалтар Грыша Рагач, дзеецца так таму, што праўленне высока цэніць добрую працу трактарыстаў і паважае іх. Некаторыя трактарысты маюць ужо за сабою па шэсць, а нават дзевяць гадоў працы ў сельгасгуртку. Найлепшымі трактарыстамі з'яўляюцца: Аляксандр Грэсь, с. Яна, Мікалай Дробат, Раман Грэсь, Міхась Хлябіч, Раман Бурса, Рышард Булатэвіч і Аляксандр Грыцук.

У мінулым годзе сельгасгурток выканаў усіх механізацыйных паслуг для сялян-аднаасобнікаў на суму 1 мільёна злотых. Апрача таго, сельгасгуртkoўцы занялiся свінагадоўляй. Прыстасавалі яны для гэтага адзін з кааператыўных будынкаў, які знаходзіцца за вёскай. Цяпер у іх ёсць 370 свіней. З мэтай павелічэння колькасці свіней яны намераны пабудаваць новую ферму. Кармы для свіней маюць з загаспадараных раней ПФЗ-аўскіх зямельных угоддзяў. Дагэтуль збіралі яны жыта, авёс, лубін і бульбу. У мінулым годзе прадалі дзяржаве 82 тоны жыта. Сёлета сельгасгурток павялічыць свае пасевы на 80 гектараў ПФЗ-аўскіх зямельных угоддзяў у ваколіцы вёсак Навасёлкі, Доўнева і Пераходы.



*Старшыня залукаўскага сельгасгуртка Уладзіслаў Паплаўскі.*

Сельгасгурток актыўна супрацоўнічае з мясцовым гуртком вясковых гаспадынь (КГВ). Пры яго дапамозе залукаўскія жанчыны арганізавалі кулінарныя курсы, супольную гадоўлю куранят, вырошчвалі раннюю гародніну ў парніках (інспектах). Праўленне сельгасгуртка арганізуе для жыхароў Залук бясплатныя канцэрты шырока вядомых у краіне эстрадных калектываў. Дапамагае мясцовай школе арганізоўваць вясковыя дзяцінцы летам і восенню, дапамагае пры пакупцы для мясцовай пазычальні кухоннага посуду і механізаванага абсталявання дамашняга ўжытку.

Жыхары Залукаў хочуць пачаць грамадскім чынам пракладку хаднікоў, адрамантаваць адрэзак дарогі Залукі-Сафіполь, каб у Залукі пачаў ездзіць аўтобус ПКС, пабудаваць будынак для вясковага цэнтра здароўя. Да грамадскай працы абавязаліся прыступіць усе жыхары вёскі, а ў тым ліку і ўсе члены сельгасгуртка.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Сельгасгурток гадуе 370 свіней.*

Беларуская літаратура — Аляксандр Баршчэўскі

# Нашаніўская пара

### АЛЕСЬ ГАРУН — ЧАСТКА IV

**Патрыятычная лірыка.** Алесь Гарун увайшоў у беларускае літаратурнае жыццё ў 1908 г. Развіццё яго паэтычнага таленту арганічна звязана з „Нашай нівай“. Сувязь з гэтым перыёдыкам утрымоўвае Гарун у форме перапіскі. Знаходзячыся ў ссылцы, не быў у стане развіваць іншай формы кантакту з цэнтрам беларускага літаратурнага руху — „Нашай нівай“. Пасля звароту з ссылкі Гарун выдаў паэтычны зборнік „Матчын дар“ — 1918 і зборнік драматычных твораў „Жывыя казкі“ — 1920. У 1929 годзе выйшаў у Мінску збор твораў Гаруна.

Сёння разгледзім тыя вершы паэта, у якіх выступае патрыятычная тэматыка. Заданне гэтае не лёгкае. Справа ў тым, што Гарун — паэт многаматыўны. Найчасцей у адным і тым самым вершы выступаюць у яго розныя праблемы. Трэба аднак адзначыць, што не мала ў яго вершаў патрыятычных у „чыстай“ форме, без якіх-колечы дадатковых матываў.

Да твораў, у якіх патрыятычная тэматыка поўнасцю дамінуе або з'яўляецца адным з істотных матываў, можам залічыць: „Роднаму краю“, „Ты, мой брат, каго зваць беларусам“, „Начныя думкі“, „Песня-звон“, „Як надарыцца мінюта“, „Мілая, родная старонка-маці“.

Лёс айчыны, любоў да айчыны прымае ў гэтых вершах розныя формы. Паэт займаецца мінулым, сённяшнім і будучым бацькаўшчыны. Амаль заўсёды захапляецца мінулым, асуджае сучаснасць, верыць у будучыню. У такім падыходзе да нацыянальнай праблемы праяўляюцца рамантычныя схільнасці Гаруна. Зрэшты, трэба сказаць, што падобным чынам глядзелі на беларускае пытанне многія іншыя пісьменнікі-нашаніўцы.

Супрацьстаўленне адмоўнай рэчаіснасці пазітыўнаму мінуламу і радаснай будучыні дасканала выяўляецца ў вершы „Як надарыцца мінюта“, напісаным у 1913 годзе. Якраз у гэтым вершы трохадзіная формула: добрае ўчора, дрэннае сёння, дасканалае заўтра праявілася бадай найбольш выразна. Вось малюнак мінулага:

Меў вялікія клейноды,
Быў і моцны і багаты, —
Задзіўляліся народы,
А дазнаўся горкай страты.

А такая сучаснасць:

Ты няшчасны і ўбогі,
Ты бяздольны і забіты,
Ты без шляху, без дарогі,
Ты абдзёрты і прапіты,
Подлай здрадаю праданы,
Ты не свой, — даўно забраны.

І ўрэшце візія будучага:

Ты паўстанеш працавіты,
Гаратнічы, невымоўны,
Шчасця, долі прагавіты,
Мой сонечны, мой чароўны!
Будзе час, пабачаць сведкі,
Хоць не мы, дык нашы дзеткі.

Культ гістарычнага мінулага моцна гучыць таксама ў вершы „Ты, мой брат, каго зваць беларусам“. Захапленне паэта адносіцца тут, мабыць, да перыяду Вялікага княства Літоўскага. Гарун услед за іншымі нашаніўскімі паэтамі лічыць дзяржаўны арганізм гэтага княства беларускім. У такім падыходзе да гэтай праблемы праяўляецца дапушчальная ў паэзіі ўпрошчанасць. Нельга аднак згадзіцца з паэтам, калі ён ідэалізуе часы, якія не былі ні дасканалымі, ні лёгкімі для беларускага народу.

А даўней беларус не падданы
Гаспадаром быў сам над сабою
І далёка ў свеце быў знаны
За літоўскай і ляцкай зямлёю.

Досыць традыцыйным па сваёй задуме з'яўляецца патрыятычны верш Гаруна „Мілая, родная старонка-маці“. У творы гэтым айчына персаніфікуецца ў постаці жанчыны-маці. Верш пачынаецца моцна дэкларатыўнай страфой аб любві паэта да бацькаўшчыны, якая паказана як жанчына, прывязаная ланцугамі да слупа. У апошняй, трэцяй страфе Гарун выяўляе надзею, што путы, якімі звязана айчына, спадуць з яе цела і ўрэшце яна стане свабоднай.

У патрыятычнай лірыцы Гаруна, у адрозненні ад іншых катэгорый яго паэзіі гучаць настроі бадзёрасці, надзеі, аптымізму. Лірыкай гэтай хацеў ён падтрымаць нацыянальны дух у народзе.

 

 

## Беларускія кнігі

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове.

Узняты з руін, 1968, цана 30 зл. 40 гр.

Багаты і элегантны каляровы альбом аб мінулым і сённяшнім сталіцы Беларускай ССР, горадзе-героі Мінску. Тэкст належыць пяру беларускага паэта А. Вялюгіна. Добры падарунак і ў школах і ў прыватныя зборы.

**Янкоўскі Фёдар,** Гістарычная граматыка беларускай мовы. Частка I, 1974, стар. 144, цана 3 зл.

Вучэбны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў, а таксама дасканалая крыніца для азнаямлення з гісторыяй нашай мовы ўсім яе любіцелям. Ва *„Уводзінах“* знаходзім, між іншым, такія раздзелы: *„Беларуская мова сярод славянскіх моў“*, *„Гістарычныя ўмовы ўтварэння і развіцця беларускай мовы“* і іншыя. Асноўная ж частка дапаможніка прысвечана фанетыцы і зменам, якія адбыліся ў ёй на працягу гістарычнага станаўлення беларускай мовы.

**Рылько Алесь,** Выбранае, 1969, стар. 288, цана 6 зл. 10 гр.

Зборнік выбраных 36 лепшых апавяданняў пісьменніка, сярод іх: *„Сваты“*, *„Сама зразумела“*, *„Абібокі і лынды“*, *„Шчасце“*, *„У блакіце“* і іншыя. Артыкул М. Пянкрата *„Цеплыня душы“* аб творчасці А. Рылько.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні кіруйце па адрасу: „Dom Książki” 15-089 Białystok ul. Kilińskiego 10.

(мг)

*ВЯСКОВЫЯ АБНОЎКІ*



*Новапабудаваная школа-васьмігодка ў Шымках Беластоцкага павету.*
*Фота Я. Цялушэцкага.*

**ГМІННЫЯ ЦЭНТРЫ**




У Шымкаўскай гміне зямля не высокай якасці, у вёсках мала мураваных дамоў, людзі жывуць значна скрамней, як у іншых мясцовасцях, і гаспадаркі тут невялікія. На 1376 гаспадарак 108 маюць менш як 2 га, 320 гаспадарак маюць ад 2 да 5 га, 312 гаспадарак ад 5 да 7 га, 328 гаспадарак — ад 7 да 10 га. Такіх гаспадарак, у якіх больш як 10 га зямлі, налічваецца 308. Менавіта таму, што зямлі ў сялян незамнога, дзяржаўны зямельны фонд увесь загаспадараны і пакуль што няма тут пытання, што рабіць з зямлёй.

У Шымкаўскай гміне асноўнымі гаспадарамі з'яўляюцца людзі 40–50 год. I ім належыцца вялікае прызнанне за тое, што на землях V і VI класаў атрымоўваюць яны параўнальна высокі ўраджай. У мінулым годзе сярэдні ўраджай у гміне з 1 га прадстаўляўся так: 23,5 цэнт. жыта, 26,5 цэнт. ячменю, 24 цэнт. аўса і 25 цэнт. пшаніцы. На 100 га зямлі ў гміне налічваецца 52,8 штук быдла (у тым ліку 30,1 штук кароў) і 92,3 свіней. Толькі з авечкагадоўляй ёсць там шмат недахопаў і планаванае яе павелічэнне далёка не выканана. Але ў мінулым годзе гміна атрымала яшчэ 24 зарадовыя бараны, і ў сувязі з гэтым якасць і колькасць авечак напэўна хутка ўзрасце.

Шымкаўская гміна мае значныя дасягненні ў грамадскіх дарожных чынах. Вартасць іх у мінулым годзе акрэслівалася сумай 200 тыс. зл. Жыхарамі гміны пасаджана 11 тыс. дрэўцаў і кустоў.

Можна таксама пахваліцца ў Шымках добрым пунктам аховы здароўя, з працы якога задаволены людзі. Кідаецца ў вочы прыгожы будынак школы і будынак гміннага ўпраўлення.

У пачатку красавіка прэзідыум гміннай рады нарадовай супольна з камісіяй гаспадарчага развіцця і забеспячэння пад старшынствам Івана Азяблы разглядалі розныя справы сваёй гміны. Прысутныя ўскрылі таксама шмат недахопаў. Даказвалі яны, што будаўніцтва хлявоў на вёсцы не адбываецца згодна з новымі ўстаноўкамі і патрэбамі. Будынкі гэтыя пераважна вузкія, у іх няма магчымасці ўвесці якую-небудзь мадэрнізацыю, аблягчаючую працу жывёлагадоўлі. Ды будуецца хлявоў малавата ў параўнанні з колькасцю пабудаваных стадолаў, якія не маюць істотнага ўплыву на развіццё жывёлагадоўлі.

Члены прэзідыума спамянутай камісіі гаварылі таксама аб слабой працы солтысаў. Яны рэдка арганізоўваюць вясковыя сходы, недастаткова інфармуюць сялян аб тых ці іншых пастановах гміны і павятовых улад. Мясцовая пажарная каманда не дбае аб сваіх прыладах і машынах, і таму на гэтым пасяджэнні паяўлялася думка, каб змяніць каменданта.

Прэзідыум і камісія з пачуццём гаспадарнасці і адказнасці падыходзяць да ўсіх спраў, хвалюючых іх асяроддзе, і канкрэтнымі сваімі прапановамі намагаюцца ліквідаваць недахопы, выступаючыя ў розных галінах гэтага мікрараёна.

**М. Хмялеўскі**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*АСЕННЯЯ*




*Ой, гараў Сямён край дарогі,* — *2 разы*
*Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*
*край дарогі.*
*А ў его валы крутарогі,* — *2 разы*
*Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*
*край дарогі.*
*Ён павесіў торбу на бярозі (-у),* — *2 разы*
*Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*
*край дарогі.*
*Ой, там дзяўчата грыку рвалі,* — *2 разы*
*Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*
*грыку рвалі.*
*Яны ў таго дзядзька торбу ўкралі,* — *2 разы*
*Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*
*торбу ўкралі.*
*Ой, пашоў Сямён гукаючы* — *2 разы*
*Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*
*гукаючы.*
*Ён свае торбы шукаючы,* — *2 разы*
*Гэй, цоп, цэба-рэба, тпруць!*
*шукаючы.*

Ад Надзеі Грыцук, 1910 года нараджэння, і Марыі Юровец, 1921 года нараджэння, вёска Навасёлкі, Беластоцкага павету, запісаў у кастрычніку 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

Пачатак на стар. 1

## За актыўную дзейнасць усяе нашай арганізацыі

Гурткі асаблівую ўвагу звернуць на папулярызацыю гаспадарчых, культурных і грамадскіх дасягненняў СССР і ў першую чаргу нашага суседа Беларускай ССР, шляхам правядзення сустрэч з удзельнікамі экскурсій у Савецкі Саюз, дакладаў, распаўсюджвання чытальніцтва савецкіх кніг і друку. У сваёй працы гурткі павінны ў больш шырокай ступені выкарыстоўваць „Ніву“ і іншыя выдавецтвы ГП БГКТ, і клапаціцца, каб у кожны дом у вёсцы і мястэчку рэгулярна прыходзіла „Ніва“, набываліся беларускія календары і іншыя нашыя выдавецтвы.

У сучасны момант уся наша краіна перажывае ўздым грамадскай актыўнасці ў сувязі з набліжаючымся VII з'ездам Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Гурткі БГКТ таксама ўнясуць у яго свой уклад, уключаючыся ў грамадскія чыны пры пабудове дарог, мастоў, святліц, спартыўных аб'ектаў, правядзення „зялёных нядзеляў“ пры пасадцы лесу і дрэваў на няўдобіцах, пабапал дарог, пры паселішчах і каля сваіх сялібаў.

Праўленні павятовых аддзелаў БГКТ асноўным сваім заданнем паставяць павелічэнне ліку членаў нашай арганізацыі, паляпшэнне працы слабых гурткоў і засноўванне новых. Дзеля гэтага пашыраць актыў сваіх праўленняў, вызначаць канкрэтныя заданні ў галіне дапамогі гурткам і разлічаць з дадзеных ім заданняў, а таксама наладзяць цеснае супрацоўніцтва з арганізацыямі і ўстановамі ў паветах і гмінах, каб атрымаць іх дапамогу. Гурткам, якія маюць самадзейныя мастацкія калектывы, дапамогуць арганізаваць выступленні па-за месцам іх дзеяння. Беручы за прыклад гайнаўскі аддзел, іншыя аддзелы паклапоцяцца пра фінансавыя сродкі для правядзення сустрэч, дакладаў, конкурсаў, фэстаў і іншых культурна-асветных мерапрыемстваў. Кожны аддзел у бягучым годзе арганізуе народны фэст, прысвечаны 30-й гадавіне перамогі над фашызмам. Аддзелы павінны таксама выкарыстоўваць аўтобус ГП для арганізавання гурткам экскурсій у пазнавальных, выхаваўчых і краязнаўчых мэтах, а таксама для абмену вопытам паміж гурткамі.

Галоўнае праўленне БГКТ павялічыць дапамогу праўленням аддзелаў у арганізацыйных справах і ў інструктажы, а таксама ў правядзенні народных фэстаў, канцэртаў, конкурсаў і экскурсій. Усебакова абмяркуе праблемы, звязаныя з навучаннем беларускай мовы ў пачатковых школах, і правядзе адпаведныя мерапрыемствы дзеля павелічэння колькасці дзяцей і моладзі, вывучаючых родную мову. Разам з праўленнямі аддзелаў на аснове актывізацыі гурткоў пачне ствараць гмінныя праўленні БГКТ, каб дапасаваць дзейнасць нашай арганізацыі да цяперашняга адміністрацыйнага дзялення краіны. У месяцы кастрычніку г.г. адбудзецца спецыяльнае пасяджэнне Галоўнага праўлення, прысвечанае будучай справаздачна-выбарнай кампаніі ў нашай арганізацыі, а ў месяцы лютым 1976 г., у 20-ю гадавіну ўзнікнення БГКТ, Галоўнае праўленне арганізуе юбілейную ўрачыстасць. (іс)

## ВАНДАЛІЗМ

Штодзень многа пасажыраў збіраецца на аўтобусным прыпынку побач плошчы Т. Касцюшкі і насупраць царквы ў Саколцы. Знаходзіцца тут дашак, пад якім можна схавацца ад дажджу або снежнай завеі. Доўгі ўжо час гэты ПКСаўскі аб'ект мае разбураны дах. У ім адны дзіркі, быццам у рэшаце. У галаву так і ціснецца пытанне: навошта і каму гэта было патрэбна? Людзі дзівуюцца, чаму ў Саколцы існуе такі вандалізм і хуліганства.

На нашу думку, неабходна зараз жа адрамантаваць дашак, які стаіць у цэнтры горада і на віду ўсіх. Адсюль ездзяць пасажыры ў сталіцу нашага ваяводства — Беласток і іншыя гарады.

(ця).



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Крама ў Талькоўшчыне

Уваходзіш у краму ПСП у Талькоўшчыне (Сакольскі павет) — і адразу кідаецца ў вочы лад і парадак. Сяляне гэтай вёскі амаль усе працуюць у лесе або на чыгунцы. Таму неабходна, каб у краме былі патрэбныя спажывецкія ды іншыя тавары. І купіць тут можна ўсё.

Прадаўшчыца — Рамуальда Пуцілоўская працуе тут ужо больш 10 год. Няцяжка заўважыць, што работа гарыць у яе руках. Дбае яна, каб тавары былі давезены ў патрэбнай колькасці і ў патрэбны час.

Тавары дастаўляе ГС Крынкі. І даволі рэгулярна. Толькі чуў я нараканне ад пакупнікоў, што ліманаду малавата і не такі ён цяпер смачны, як быў раней. Ці сапсавалася смачная крынкаўская крынічная вада?

**Я. Бандарук**

## У Канюках

Сцяпан Багуцкі — консерватар дарог і мастоў з гміны ў Заблудаве правёў сход у вёсцы Канюкі. Паставіў справу рамонту дарогі Канюкі-Паўлы. На сходзе выступілі вясковыя ініцыятары пабудовы гэтай дарогі: Уладзімір Наумюк (вядомы разбяр), Уладзімір Матвеюк (солтыс). За імі адобрылі справу іншыя жыхары вёскі Канюкі і прыступілі да чыну.

У сакавіцкія дні 1975 г. выехалі людзі фурманкамі і выйшлі пехатой, прыступілі да працы. На 200 метрах навазілі пяску і ўставілі цэмбравіны на так званы пропуст. Добры гэта цяпер кусок дарогі. А раней тут было балота і вада да пояса. Цяпер ездзяць самаходы і трактары.

Яшчэ раней Канюкі направілі дарогу Канюкі-Рыбалы. Таксама не прайшлі міма вуліцы ў самой вёсцы Канюкі, дзе вада вымыла вялікую яму. І тут падраўнялі, выправілі. Вартасць іх працы — каля 50.000 зл. Вось дык чын!

**Ул. Гуралеўскі**

## Канферэнцыя настаўнікаў

У Заблудаве адбылася канферэнцыя настаўнікаў, якія вядуць заняткі з шасцігадовымі і малодшымі дзецьмі. Сабраліся настаўнікі з усходняй часткі Беластоцкага павету. Пазнаёміліся ўсе з заданнямі і формамі працы з малышамі.

Цікавую дыдактычную частку на сходзе правяла сяброўка Каласоўская з Заблудава.

**Мікола Краўчук,**
Патока




### ТАРНОПАЛЬСКІЯ ХЛОПЦЫ

*Эх, тарнопальскія хлопцы,*
*Усе мае верныя сябры,*
*Дзе ні бывалі,*
*Дзе ні гулялі*
*У тыя юныя гады!*

*Песень не мала мы зналі,*
*Нашых народных, жывых,*
*І зацягалі,*
*І напявалі —*
*Рэха няслося ў бары.*

*Эх, тарнопальскія хлопцы,*
*Роўныя ўсе, як адзін.*
*Дзе ні забава —*
*Наша кампанія*
*Там завітала заўжды.*

*У Луцэ не раз*
*І ў Семяноўцы не раз...*
*У Масеве часта,*
*У Лупляніцы часам,*
*У Ялоўцы хоць раз...*

*Нараўка або Ляўкова,*
*Боўтрыкі ці Рыбакі,*
*Вёсак з паўсотні,*
*Усюды, як дома,*
*Словам, ну дзе ж не былі?*

*Сёння — адным успаміны,*
*Другіх — няма назаўжды.*
*Тыя, што будуць,*
*Хай не забудуць*
*Наш тарнопальскі матыў.*

**Ул. Гайдук**

## Выстаўка даведнікаў

У Белавежы, у вестыбюлі Прыродазнаўчага музея БНП, экспанаваліся ў красавіку г.г. турысцкія, інфармацыйныя і навукова-папулярныя выданні пра Белавежскую пушчу, якія былі надрукаваны ў перыяд 1925-1974 г.г. Выстаўку падрыхтавалі, з выпадку 50-годдзя выдання першага даведніка пра Белавежскі нацыянальны парк, музей БНП і Таварыства прыяцеляў Белавежы. Гэтым даведнікам з'яўляецца напісаная праф. Язэпам Пачоскім „Экскурсія ў Нацыянальны парк у Белавежы 7 і 8 ліпеня 1925 г."

Выстаўка, якая рэкамендуе звыш 70 выданняў на польскай, беларускай, рускай, нямецкай, англійскай і французскай мовах, была падзелена на такія часткі: даведнікі, інфармацыйныя выдавецтвы, фальдэры, турысцкія карты, навукова-папулярныя выдавецтвы для дарослых і для моладзі, даведнікі семінараў і кангрэсаў, а таксама альбомы мастацкай фатаграфіі.

Увагу наведвальнікаў звяртаюць асабліва старэйшыя выданні, сярод якіх ёсць спамянуты ўжо даведнік Я. Пачоскага, таксама надрукаваная ў 1930 г. ў Кракаве „Белавежская пушча і Нацыянальны парк ў Белавежы" Я. Е. Карпінскага і „Кароткі даведнік пра Белавежскую пушчу" з 1937 г., напісаны М. Арловічам і Я. Е. Карпінскім. Займальна рэкамендаваліся таксама навейшыя выданні, як альбомы Л. Вільчка, А. і М. Ананіных, У. Пухальскага і фальдэры на замежных мовах.

**П. Байко**

## СХОД

У пачатковай школе ў Заблудаве адбыўся сход грамадскай рады. Прысутнічалі запрошаныя прадстаўнікі вёсак гэтай гміны, менавіта солтысы і радныя. Сход вёў начальнік гміны. Гаварылі аб рамонце і будове дарог на тэрыторыі гміны.

Начальнік з прызнаннем гаварыў аб вёсцы Давідавічы. Вёска гэтая 30-ую гадавіну перамогі над фашызмам адзначыла вялікім грамадскім чынам.

**Мікалай Міхалюк**

## Паразіты грамадства

У многіх вёсках, пасёлках, а нават і гарадах, можна пачуць аб тайным гандлі гарэлкай.

У Чаромсе ёсць некалькі асоб, якія прадаюць гарэлку. Кожны такі пункт мае сваю назву. Таму часта чуваць, як нехта гаворыць: дастаў „пад сучкаю", у „прыдварцовай", у „дэлікатэсах", у „дзядка" і г.д. Гандляры-паразіты расцягнулі сваё павуцінне па ўсяму рабочаму пасёлку. Кожны ведае аб іх „дзейнасці": людзі, мясцовыя ўлады, міліцыя. Хачу звярнуць асаблівую ўвагу на „дзядка", які „дзейнічае" пад бокам чыгуначных улад і міліцыі. Такую шкоцкую „мэліну" даўно трэба ліквідаваць, таму што чыгуначнікі, якія працуюць на станцыі, маюць сюды некалькі крокаў. Справу „дзядка" ставілі на партыйным сходзе. Усе сказалі, што гэта справа міліцыі. Аднак сама міліцыя нікога не зробіць. Не хапае рэчавых доказаў. А мо толькі так гавораць? Як хочаш сабаку стукнуць, кій заўсёды знойдзеш — гаворыць прымаўка. Мне здаецца, што ліквідаванне тайных гандляроў гарэлкай залежыць перад усім ад самых людзей. Таму і вырашанне гэтай праблемы аддаю пад развагу жыхароў пасёлка. (км)

## У Стрыках без балота

Гэта вялікая заслуга жыхароў вёскі і солтыса Фёдара Сычэўскага. Дагэтуль вуліца да вёскі і ў вёсцы была такая балоцістая, што вясною і восенню нават трактары з цяжкасцю праязджалі. Людзі ў вёсцы доўга думалі і ўрэшце пачалі рамантаваць дарогу грамадскім чынам. Працавалі па нядзелях і ў іншыя дні. У працы гэтай памагалі трактары з прычэпамі і іншыя машыны. Ну, і дарога стала падобнай да дарогі.

Пазней аказалася, што вёска заваявала першае месца ў гміне Бельск за выкананыя работы пры дарозе і атрымала за гэта ўзнагароду на яшчэ большае паляпшэнне сваіх дарог.

**Янка Сычэўскі**

## Добры прадаўшчык

Кожны жыхар вёскі Кнаразы задаволены працай крамы. Прадаўшчык Ян Артэмюк ветлівы да кожнага, трымае чысціню і парадак у краме. У яго ўсё на сваім месцы. І хаця ўмовы працы ў краме не найлепшыя (яна змяшчаецца ў адным з жылых дамоў), Ян Артэмюк умее павесці працу так, каб усё было добра.

Варта яшчэ дадаць, што прадаўшчык вядзе ў сваёй краме скупку яечак. Якая ж гэта выгода для вёскі. А Кнаразы не малая вёска. А яшчэ на гаспадарцы працуе гэты чалавек. На ўсё мае час, і ўсё ў яго ладзіць.

**Жэня Аўсенюк**

## Патрэбны аўтобусны прыпынак

Нядаўна пры дарозе паміж Саколкай і Слойкай зрабілі новы прыпынак ПКС — Гарчакі. Гэты прыпынак, па просьбе бліжэйшых вёсак і калоній, паўстаў у чыстым полі, дзе нават дрэўца і кусціка няма. Калі людзі збяруцца ехаць на работу ці ў школу, дык няма дзе прыхавацца ад дажджу. У пагоду можна пастаяць і пад голым небам, а як вецер з дажджом ці снегам збівае з ног, куды тады дзецца людзям?

Я добра разумею, што не адразу ўсюды можна пабудаваць ПКС-аўскія пачакальні. Аднак у нас і так бывае, што на прыпынку, дзе збіраецца мала людзей, у першую чаргу ставяць пачакальні. Напрыклад, па той жа дарозе Саколка-Слойка ёсць прыпынак каля школы ў Малявічах. Тут у аўтобус сядае адна вучаніца і часам яшчэ адзін чалавек. Або па дарозе з Саколкі ў Крынкі, першы прыпынак ад Саколкі — Драглі. Тут рэдка калі хто чакае аўтобуса. А пачакальня тут ёсць. Мы не супраць таго, каб на малых прыпынках будаваць пачакальні, але ў першую чаргу трэба будаваць пачакальні там, дзе з прыпынку карыстаецца многа людзей.

**Т. К.**

## Шафёр шафёру не роўны

Насупраць вясковага цэнтра здароўя ў Новым Беразове ёсць аўтобусны прыпынак. Было гэта 7 красавіка 1975 года. На аўтобусным прыпынку чакалі тры жанчыны, якія выйшлі ад доктара. Адна была з дзіцём на руках. Аўтобус, які з Гайнаўкі выязджае ў $12^{45}$, у Беразове — у $12^{55}$. Шафёр гэтага аўтобуса не затрымаўся на прыпынку, а ў 50 метрах перад ім. З аўтобуса выйшлі чатыры асобы, а калі тыя жанчыны, што чакалі, хацелі дабегчы, тады шафёр павялічыў хуткасць і паехаў. Жанчыны чакалі да $16^{35}$.

Ёсць аднак і людзі, якія маюць сумленне. У той жа дзень быў аўтобус, які едзе з Тынявіч у Гайнаўку, у Беразове ён у $12^{50}$. Гэтым аўтобусам у Гайнаўку едзе многа людзей, менавіта настаўнікі і рабочыя з недалёкай будовы. На прыпынку сабралося каля 20 асоб. Усе чакалі з нецярплівасцю. Калі аўтобус затрымаўся, людзі кінуліся да яго, як гэта бывае — хто першы, той лепшы. І хоць не хапала седзячых месц, шафёр узяў усіх. Нумар гэтага аўтобуса АО 8502. На аснове гэтых прыкладаў можна сказаць, што і без злосці можна жыць і працаваць.

**Цюльпан**




**Анна Білеўская, Гайнаўскі беларускі ліцэй.** Верш надрукуем. Добры.

**Аляксандр Раманюк, Дубяжын.** Верш „Эх, дарогі" будзем друкаваць.

**Мікалай Бялецкі, Нараў.** У справе пакрыўджаных гаспадароў гаварылі мы з юрыстам. На жаль, позна цяпер на нейкія інтэрвенцыі. Вінаваты солтыс, ён павінен быў паінфармаваць.

**Бертрам Шатан, Хожуў.** У сваім пісьме вы ахвяруеце сваю працу старэйшым гаспадарам. Што ж, тут трэба асабіста прыехаць на вёску і пашукаць працы, як усюды.

**Я. Г., Галады.** Верш „Маёй дзяўчыне" надрукуем.

**Дзяніс Пракапюк, Чыжы.** Верш „Солнышко блеснуло" надрукуем, іншых не зможам.

## Новаберазова ў рускім фільме

У палове сакавіка кінастудыя дакументальных фільмаў з Варшавы наведала вёску Новаберазова. Падзеі фільма, які тут знімалі, адбываюцца ў рускай вёсцы над Волгай. Яна таксама называецца Беразова. Абавязкова патрэбна была царква, і якраз такая царква знаходзіцца ў вёсцы Новаберазова. Яна вялікая, але старая і пацарапаная з усіх бакоў.

Сяляне і асабліва моладзь маглі атрымаць аўтографы акцёраў. У фільме выступала і новаберазоўская моладзь і старэйшыя, як Пракоп Мароз (быў фурманам), Марыя Башун, Аліцыя Швед, Анна Бурачык.

**Цюльпан**

## І тут трэба

Цяжка міністэрству камунікацыі даць інвестыцыі Гайнаўскаму павету. Занядбанне тут вялікае. Аб гэтым пісаў ужо „Раса" („Калі будзе пабудаваны вакзал ПКП у Гайнаўцы?") у 31 нумары „Нівы" з 4 жніўня 1974 і артыкул пра станцыю ў Чаромсе ў нумары 39 „Нівы" з 29 верасня 1974 г.

Чытач напэўна падумае, што гэта ўжо ўсе праблемы вакзальнага будаўніцтва. Карэспандэнт „Раса" не пабываў тады яшчэ на станцыі ПКП у Нараўцы. Тут станцыя была ў час вайны дашчэнту разбіта. І так, як і ў Чаромсе ці ў Гайнаўцы, быў тут пабудаваны барак — на некалькі год. А прастаяў 30 год. Невядома, калі прыдзе канец станцыі-бараку ў Нараўцы? Пасажыраў тут многа і вялікі рух паяздоў. Добра было б змясціць у плане і пабудову станцыі ў Нараўцы.

**Э. Вайсковіч**

### КРЫТЫКА ПАМАГЛА

### ЦЯПЕР — ЛЕПШ

Нядаўна я пісаў аб макрэнскай святліцы. Хачу прыпомніць, што рэч ішла там пра крэслы, якіх у макрэнскай святліцы не было. Цяпер у святліцы ёсць і крэслы. Мы іх нядаўна дасталі. Ёсць іх 16 штук. Атрымалі яшчэ два сталы. Ёсць дзе пасядзець. Значыць, крытыка памагла.

**Я. Н-т-к**

### КРЫТЫКА НЕ ПАМАГЛА

## Пачакальня далей страшыць

На аўтобусным прыпынку ў Заблудаве Беластоцкага павету стаіць пачакальня для пасажыраў. Некалі яна была адноўленая, чыстая, нават нябрыдкая. Найважнейшае, што было куды зайсці і затрымацца, калі дождж ліў за каўнер або веяла холадам. Цяпер тут няўтульна, па спіне дрыжыкамі праходзяць скразнякі. Няма тут шыбаў у вокнах. Яны пабітыя. Паламаны таксама дзверы і лавачка. Брудна. Многім з пасажыраў, якія чакаюць аўтобуса ў Заблудаве, у галаву так і ціснецца пытанне: навошта і каму гэта было патрэбна? Людзі сюды заходзяць... і дзівуюцца, што ў Заблудаве такі балаган у пачакальні. Бачаць, як не трэба нішчыць аб'ектаў супольнага карыстання. Але ж людзі іх і нішчаць...

24 сакавіка мінулага года пісалі мы: „На нашу думку, пара аднак узяцца за рамонт пачакальні. Яна ж у цэнтры мястэчка, у якім крыжуюцца дарогі ў сталіцу нашага ваяводства — Беласток, у сталіцы паветаў — Бельск, Гайнаўку, Сямятычы, у мястэчка Міхалова і куды яшчэ толькі".

Мінуў год, а на аўтобусным прыпынку нічога не змянілася. Пачакальня далей страшыць. Мясцовыя гмінныя ўлады і ўлады ПКС у Беластоку, відаць, не мелі часу гэтым займацца. А мо ў гэтым годзе пачакальня будзе адрамантавана з любой нагоды ў рамках грамадскага чыну? Эфект такога чыну ўбачылі б усе праезджыя. (ця)

NIWA Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Wydawca RSW „Prasa—Książka—Ruch" Indeks 36911/36671.

